*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край

2020, № 11(57). Кастрычнік

# Храм-“ратуша” і таямнічая драўляная капліца ў Слоніме

## *Фотаздымкі з маскоўскага музея*




У зборах Дзяржаўнага навукова-даследчага музея архітэктуры імя Шчусева ў Маскве ёсць фотаздымкі, зробленыя на Слонімшчыне ў XX стагоддзі. На адным з іх бачым касцёл бернардынцаў (цяперашні Свята-Троіцкі праваслаўны сабор). Пад ім подпіс: *“Слонім. Будынак ратушы”*. У апісанні аднак згадваецца царква. Памылку, відаць, дапусцілі ў колішнім музеі Акадэміі архітэктуры СССР, адкуль паступіла гэтае фота, створанае ў *“1900-1940 гг.”.*

Яшчэ адзін здымак са збораў музея імя Шчусева — *“Слонім. Драўляная капліца”.* Пад пытальнікам часам пабудовы пазначана XIX стагоддзе. Фота зроблена *“не пазней 1948 г.”.* Але дзе ў нашым горадзе была такая капліца? І ці была? Фота таксама паступіла са збораў музея Акадэміі архітэктуры СССР і яго там маглі памылкова падпісаць. У любым разе маем таямніцу, якую трэба разгадаць.

У тым жа маскоўскім музеі адшукаліся здымкі фатографа Міхаіла Чуракова, зробленыя ў Слоніме і Жыровічах у 1970-1980-я гады. Гэта чорна-белыя негатывы. На двух розных адбітках бачым Свята-Троіцкі сабор (подпіс — *“касцёл кляштара бернардынцаў”*). На шасці адбітках — жыровіцкія храмы.

●Сяргей Ёрш

*Працяг на ст. 2*

# Храм-“ратуша” і таямнічая драўляная капліца ў Слоніме

## *Фотаздымкі з маскоўскага музея*

*Працяг, пачатак на ст.1.*



*Памылковы подпіс у музеі: “Слонім. Будынак ратушы”*




*Свята-Троіцкі сабор у Слоніме. 1970-1980-я гады. Здымак Міхаіла Чуракова*














*Праваслаўныя храмы ў Жыровічах. 1970-1980-я гады. Чорна-белыя негатывы. Здымкі Міхаіла Чуракова*

# Спробы арганізацыі мясцовай прэсы ў Слоніме ў пачатку XX стагоддзя

Дагэтуль не было даных пра спробы арганізацыі мясцовай прэсы ў Слоніме ў пачатку XX стагоддзя пры расійскіх царскіх уладах. Намі быў прапанаваны датай заснавання слонімскага перыядычнага друку люты 1916 года. Менавіта тады ў Слоніме выйшаў першы нумар нямецкамоўнай газеты "Шчараўская жаба".[1] Аднак сёлета ўдалося адшукаць звесткі пра тое, што перыёдыкі маглі з'явіцца ў нашым горадзе на некалькі гадоў раней.

У Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу ў фондзе "Галоўнае ўпраўленне па справах друку Міністэрства ўнутраных спраў" захоўваюцца тры справы 1912-1914 гадоў, якія маюць дачыненне да Слоніма. Першая — "Па выданні ў горадзе Слоніме газеты *"Торгово-промышленного листка"* (дата — 10 верасня 1912-га).[2] Другая — "Па выданні ў горадзе Слоніме газеты *"Слонимский листок"* (дата — 2 траўня 1913-га).[3] Трэцяя — "Па выданні ў горадзе Слоніме газеты *"Наше утро"* (дата — 18 верасня 1914 г.).[4]

На жаль, невядома, хто быў ініцыятарам (ці ініцыятарамі) выдання гэтых газет і ці былі атрыманы ад уладаў на яго дазволы. Дагэтуль нават пра такія праекты мы нічога не ведалі.

Магчыма, хтосьці з чытачоў "СК" мае магчымасць пераглядзець згаданыя архіўныя справы і высветліць, ці не выйшла першая слонімская газета яшчэ напярэдадні Першай сусветнай вайны.

●СЁ









*[1] Ёрш С. Зноў пра першую слонімскую газету // Слонімскі край, 2019, № 1(35). Студзень. С. 6-7.*

*[2] Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў (Санкт-Пецярбург), фонд 776, вопіс 22, 1912 г., справа 187.*

*[3] РДГА, ф. 776, воп. 22, 1913 г., спр. 102.*

*[4] РДГА, ф. 776, воп. 22, 1914 г., спр. 235.*

# Рэвалюцыйны год

## *Слонімшчына на старонках газеты "Гродненскія губернскія вѣдомости" ў 1905-м*

*Працяг, пачатак у №10, 2020 г.*

Працягваем змяшчаць на старонках "СК" самыя цікавыя і важныя матэрыялы пра жыццё на Слонімшчыне ў 1905 годзе паводле публікацый у газеце *"Гродненскія губернскія вѣдомости"* (у яе "афіцыйнай" і "неафіцыйнай" частках). У першай частцы была падборка артыкулаў пра крымінал і здарэнні. У другой частцы змяшчаем пастановы Слонімскай гарадской думы у перакладзе на беларускую мову. Яны прысвечаны падтрыманню парадку на падворках гараджан, пытанням вывазу бруду і смецця, функцыянаванню лазняў і цырульняў. Даволі падрабязнае апісанне патрабаванняў дазваляе лепш зразумець, як забяспечвалася ў той час адносна камфортнае жыццё людзей, якую ўвагу мясцовыя ўлады надавалі падтрыманню чысціні і парадку.



Гарадскія асенізатары

### Абавязковыя пастановы па санітарнай частцы, складзеныя Слонімскай гарадской думай для мясцовых жыхароў[…]

I.Пра ўтрыманне ў чысціні і ахайнасці падворкаў і рыштокаў*

1. Домаўладальнікі абавязаны ўтрымліваць падворкі ў поўным парадку і чысціні, а для часовага змяшчэння смецця і бруду мець на падворках прыбіральні і скрыні для смецця, таму строга забараняецца раскідваць смецце на падворках і вуліцах.

2. На кожным падворку павінна быць абсталявана прыбіральня з выграбной ямай (ці клазэт), якія маюць непранікальныя абсмаленыя сцены і дно, ці замест ямаў шчыльна збітыя і асмаленыя скрыні на колах для зручнасці іх вывазу. Скрыні павінны быць абсталяваны так, каб не знаходзіліся па-за прыбіральнямі.

Заўвага: пры вельмі цесным размяшчэнні дамоў дапускаецца абсталяванне адной прыбіральні на некалькі дамоў.

3. Прыбіральні павінны ўтрымлівацца ў парадку і чысціні.

4. Рынштокі домаўладальнікамі павінны чысціцца штодня.

**Вадасцёк. Магчыма, маецца на ўвазе канава паміж ходнікамі і дарогай. — "СК".*

II.Пра ачыстку рэцірадных месцаў, вываз бруду і месцы звалак

1. Ачыстка выграбных ямаў, прыбіральняў пры дамах жыхароў гор[ада] Слоніма павінна адбывацца ўдзень, і толькі з дапамогай пнеўматычных машын для выцягвання бруду, які павінен вывозіцца ўдзень у герметычных бочках, а ўначы ў спецыяльна абсталяваных для гэтага бочках з герметычнымі накрыўкамі.

2. Прыватныя прадпрымальнікі, якія арганізуюць вываз з горада бруду, павінны дакладна выконваць наступныя патрабаванні, пры гэтым абозы іх з абсталяваннем павінны змяшчацца за горадам у пазначаным санітарным наглядам месцы.

3. Начныя бочкі з герметычнымі накрыўкамі, калі яны драўляныя, павінны быць абсмаленыя ўнутры і звонку.

4. Увесь асенізацыйны абоз павінен знаходзіцца ў поўным парадку. Бочкі, у якіх вывозіцца бруд, могуць праязджаць па гарадскіх вуліцах не інакш, як памытыя сродкамі для дэзынфекцыі па ўказанні санітарнай камісіі. Чарпакі ў начных бочках павінны быць кожны раз памытыя і прадэзынфікаваныя. Пнеўматычныя ж машыны могуць з'яўляцца ў горадзе толькі чыстыя, пры чым як на дзённых, так і на начных бочках павінна быць буйнымі літарамі і яркімі фарбамі пазначана, чый асенізацыйны абоз і нумар бочкі, а на пнеўматычнай машыне мусіць быць надпіс, каму яна належыць.

5. Падчас правядзення ачысткі пры пнеўматычных машынах павінна абавязкова гарэць печка для спальвання газаў; пасля ж ачысткі, як дзённым, так і начным абозам, падворак і сценкі ямаў мусяць быць

ачышчаны ад астаткаў бруду рабочымі асенізацыйнага абозу. Інструменты павінны быць кожны раз дэзынфікаваныя.

6. Начныя бочкі могуць з’яўляцца ў горадзе для правядзення ачысткі ў зімовы час не раней за 11 гадзін вечара і праязджаць па гарадскіх вуліцах да 6 гадзін раніцы, а ў летні час — не раней за 12 гадзін ночы і праязджаць па горадзе да 5 гадзіны раніцы.

7. Месцы для звалак бруду павінны быць папярэдне агледжаны і ўхвалены гарадской санітарна-выканаўчай камісіяй, не могуць быць блізка ад горада і мусяць быць далёка ад жытла, дарог і месцаў, якія часта наведваюцца гуляючымі, а таксама ад натуральных і штучных крыніц вады.

8. У справе звалкі бруду на пазначаных санітарнай камісіяй месцах і пераўтварэння бруду ў прадукт угнаення, утрымальнікі асенізацыйных абозаў падначальваюцца наступным правілам: а) бруд павінен выліваецца на месцах звалак толькі ў спецыяльна выкапаныя для гэтага траншэі, якія павінны быць шырынёй не больш за 2 аршыны, даўжынёй не больш 10 сажаняў і глыбінёй 2 аршыны.* Траншэі гэтыя павінны быць размешчаны адна ад другой на адлегласці не менш 2 сажаняў. Для бруду, што вывозіцца ў зімовы час, траншэі павінны быць падрыхтаваны з восені і зімой ачышчацца ад снегу, б) паверхня глебы вакол траншэі мусіць утрымлівацца ў поўнай чысціні: не павінна быць на ёй ні смецця, ні бруду, в) пры траншэях павінен абавязкова знаходзіцца хлеў з дастатковым запасам рэчываў, прызначаных для пераўтварэння бруду ў пудрэт**, а менавіта: торфу, зямлі і інш., г) рэчы, якія выкарыстоўваюцца для пераробкі бруду ў пудрэт, павінны быць папярэдне высушаны, д) каля траншэй павінен знаходзіцца дастатковы запас вады для мыцця выгружаных бочак, а таксама дэзынфекцыйныя сродкі і швабры ў колькасці, якая адпавядае велічыні асенізацыйнага абозу, е) для назірання за правільнасцю засыпання ямаў, а таксама за правільнай выгрузкай бочак, іх старанным адбываннем і абясшкоджваннем, павінна пастаянна знаходзіцца каля траншэяў удзень і ўначы абслуга ўтрымальніка абозу, ж) засыпанне траншэй торфам, зямлёй і іншымі рэчывамі, якія садзейнічаюць перагніванню бруду, павінна рабіцца пастаянна па меры таго, як уліваецца ў траншэі бруд і пры тым роўным пластом па ўсёй паверхні бруду, пасля ж таго змесціва траншэі павінна размешвацца з усыпанымі рэчывамі асобымі мяшалкамі, паверхня бруду павінна быць заўсёды закрытая рэчывамі, якія садзейнічаюць перагніванню бруду і з) бруд перагніўшы з торфам і зямлёй і г. д. не могуць выкарыстоўвацца для ўгнаення раней за 12 месяцаў пасля напаўнення траншэй.

9. Нагляд за выкананнем утрымальнікамі асенізацыйных абозаў згаданых абавязковых пастаноў належыць: гарадскому грамадскаму ўпраўленню, гарадской санітарна-выканаўчай камісіі і чынам паліцыі.

**Аршын — 0,71 метра, сажань — тры аршыны г. зн. 2,13 метра. — “СК”.*

***Арганічнае ўгнаенне. — “СК”.*

### III.Пра скрыні для смецця і вываз смецця і лёду

1. Скрыні для смецця павінны рабіцца з сценкамі з дошак і такім жа дном, абсмаленымі ўнутры і непранікальныя для вадкага бруду.

2. Змесціва скрыняў для смецця не павінна быць крыніцай смуроду.

3. Вываз бруднага лёду і смецця са двароў, вуліц і плошчаў горада павінна рабіцца ў вазах ці скрынях з тым, каб такія пры перавозцы зусім не рассыпаліся па вуліцах.

### IV. Пра парадак абсталявання трубаў для зліву памыяў

1. Забараняецца выводзіць непасрэдна на вуліцу трубы з дамоў, карыты і іншыя прыстасаванні для адводу зліўной вады на ходнікі.

2. Забараняецца выпускаць на вулічныя рынштокі любую ваду з заразных аддзяленняў бальніц.



*Асенізацыйны абоз*

# Рэвалюцыйны год

Працяг, пачатак на ст. 4-5

V. Пра парадак утрымання лазняў

1. Для падтрымання чысціні паветра ў лазнях павінны быць абсталяваны вентыляцыйныя прыстасаванні ў сценах.

2. Сцены павінны ўтрымлівацца ў чысціні.

3. Падлогі павінны быць непранікальныя, але спусцістыя, у нізкім месцы павінны мець адтуліну для спуску вады па трубе ў калодзеж-адстойнік.

4. Уваход у лазню павінен быць цёплы.

5. У распранальных пакоях павінны быць палатняныя палавікі, якія аблягчаюць хаджэнне па слізкай падлозе і штодня мыюцца. Для кожнага наведвальніка павінна быць асобнае месца.

6. Кафляныя ванны мусяць быць зроблены з добрых кафляў без расколін, без дэфектаў эмалі.

7. Лазні павінны асвятляцца лямпамі, якія даюць дастатковую колькасць святла і не даюць сажы.

8. Падлогі, паліцы і прастора пад паліцамі, а таксама посуд павінны ўтрымлівацца ў абсалютнай чысціні, пры гэтым бакавыя сцены паліцы ў гарачай лазні (у паравым аддзяленні) павінны адкрывацца для ачысткі прасторы пад паліцай.

9. Пры лазнях павінны быць абсталяваны цёплыя ватэрклазэты, якія павінны мець цёплае злучэнне з памяшканнем лазняў.

10. Лазеншчыкі і лазеншчыцы перыядычна праходзяць медычнае асведчанне, пры гэтым асобы, якія церпяць ад скураных і заразных хваробаў, не допускаюцца да працы.

11. Пакоі для распранання і мэбля ў іх павінны быць пастаянна чыстыя; бялізна, як і прасціны і ручнікі, павінны быць пастаянна чыстыя і мыцца пасля кожнага выкарыстання; венікі і мачалкі мусяць быць пастаянна чыстыя.

12. У касе лазні павінна заўсёды знаходзіцца кніга для скаргаў наведвальнікаў лазняў, якая мусіць выдавацца наведніку на першае патрабаванне для запісу скаргі на парушэнне гэтай пастановы. Кніга гэтая павінна мець шнур, пячатку і сашчэпку гарадской управы.

13. Выкладзеныя абавязковыя пастановы аб утрыманні лазняў павінны вісець каля касаў, у распранальных пакоях, нумарах і ванных пакоях.

14. Адкрыццё лазняў можа адбыцца толькі пасля агляду іх санітарным наглядам.


У Слоніме дамы стаялі вельмі шчыльна

VI. Пра ўтрыманне цырульняў

1. Утрыманне цырульняў дапускаецца ў асобных, чыстых і светлых памяшканнях, у якіх сцены не павінны аклейвацца шпалерамі, а бяліцца ці афарбоўвацца. Падлогі мусяць утрымлівацца ў чысціні.

2. У цырульнях мяккая мэбля, акрамя крэслаў абабітых скурай ці шчыльнай цыратай, не дапускаецца. Парт'еры і фіранкі пры дзвярах і вокнах дапускаюцца з вэлюма, з нябеленай парусіны і ўвогуле з такой тканіны, якая лёгка мыецца.

3. Бялізна, якую выкарыстоўваюць пры стрыжцы і галенні, павінна захоўвацца ў асобнай шафе ў самой цырульні і падавацца кожнаму наведвальніку чыстая, не выкарыстаная пасля мыцця.

4. Металічныя інструменты, якія выкарыстоўваюцца для стрыжкі і галення, павінны ўтрымлівацца ў чысціні і кожны раз праходзіць дэзынфекцыю ў растворы фармальдэгіда і перад выкарыстаннем павінны абціраца ватай, змочанай спіртам.

5. Грабянцы, пэндзлікі і мыльніцы перад кожным выкарыстаннем павінны прамывацца ў цёплай вадзе з мылам; шчоткі мусяць утрымлівацца ў чысціні.

6. Не дапускаецца да выкарыстання для пудры пушок, замест якога павінна выкарыстоўвацца гіграскапічная вата, якая павінна захоўвацца ў шкляным посудзе з прыцёртым коркам ці ў бляшаных банках з шчыльнай накрыўкай; пры гэтым вата павінна давацца свежая для



кожнага наведвальніка.

7. Пульверызатары для спрысківання дапускаюцца толькі з гутаперчавымі шарамі ці іншымі механічнымі рухавікамі, але не такія, пры выкарыстанні якіх дзейнічаюць ротам.

8. У кожнай цырульні павінна быць рукамыйніца, мыла і чысты ручнік, а цырульнік павінен перад кожнай працай вымываць рукі і мусіць быць чыста апрануты ў чысты закрыты паўсюль фартух з рукавамі.

9. Пасля стрыжкі кожнага наведвальніка валасы павінны быць адразу ж прыбірацца з падлогі і складвацца ў асобыя скрыні, а пасля штодзённа знішчацца праз спальванне.

10. Асобы, якія працуюць у цырульнях, перыядычна праходзяць медыцынскае асведчанне.

11. Асобы, якія маюць сыпныя, скураныя і ўвогуле заразныя хваробы, не дапускаюцца да працы ў цырульнях.

12. У кожнай цырульні на відным месцы павінна быць вывешана гэтая абавязковая пастанова аб утрыманні цырульняў, а таксама такса за стрыжку і галенне.

Гэтыя абавязковыя пастановы ўступаюць у законную сілу пасля заканчэння месяца са дня апублікавання іх у мясцовых Губернскіх Вѣдомостях.

Гродненскія губернскія вѣдомости, 1905, № 85, 18 лістапада.

*Працяг у наступным нумары*

## СЛОНІМСКІЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ

# Як вяскоўцы сабак абаранялі

Гэтая гісторыя адбылася ў жніўні 1932 года ў адной з блізкіх да Слоніма вёсак (на жаль, невядома, у якой дакладна). Працаўнік службы па вылоўліванні бадзяжных жывёл прыехаў туды з горада і пачаў лавіць сабак, якіх сустракаў на вуліцы. Іх ён саджаў у будку, усталяваную на возе. Мясцовыя жыхары пачалі абурацца і патрабаваць, каб *"сабачнік"* вызваліў жывёл і з'ехаў з вёскі (ён, дарэчы, не меў права "працаваць" у вёсцы). Мужчына на іх не звяртаў увагі. І тады вялікі натоўп акружыў слонімца. Яго абяззброілі, сабак з будкі выпусцілі, а туды пасадзілі *"сабачніка"* і зачынілі яго там. Далей ударылі каня і накіравалі яго ў бок Слоніма. І той павёз свайго "палоннага" гаспадара. Конь прыйшоў дахаты і ўжо там жонка вызваліла працаўніка службы, якую вельмі не любілі мясцовыя жыхары.

# Зняволенне ў сабачай будцы

Восенню 1934-га паліцыя ў Слоніме атрымала жахлівую вестку пра здзекі сужыцеля над жанчынай з псіхічным захворваннем, маці двух пазашлюбных дзяцей. Па адрасе выехалі паліцэйскія. Мужчына, які іх сустрэў, аказаўся тым самым сужыцелем, панам Смяткоўскім. Ён заявіў, што гаспадыня, Мар'я Бібік, *"небяспечная для навакольных"*. Таму яе зачыніў у… сабачай будцы. Паліцыянты, напэўна, нічога падобнага дагэтуль не бачылі. У будцы яны пабачылі перапалоханую жанчыну, а каля яе міску з ежай… Там яна была ўжо працяглы час.

Жанчыну вызвалілі, яна атрымала неабходную дапамогу. Ці атрымаў пакаранне сужыцель, невядома.



*Салдацкая трусіная ферма падчас Першай сусветнай вайны, верагодна, у Слоніме. Малюнак Вальтэра Фэста быў апублікаваны ў "Ваеннай газеце ў Баранавічах" (1917, № 65, 15 жніўня)*

# З гісторыі ўладальнікаў маёнтка Старыя Жыровічы з канца XV стагоддзя да 1939 года

*Працяг, пачатак у № 6-10, 2020 г.*

4.4.Сям'я Андрэя Мікульскага

У сям'і Андрэя Мікульскага і Маргарыты Стравінскай у маёнтку Старыя Жыровічы нарадзіліся дзеці: Стэфан, Людвіга, Тэрэза, Фларэнцін. Праз шлюбы дзяцей сям'я парадніласся з Пуслоўскімі, Фёлькерзамбамі, Шэметамі, Біспінгамі, Молямі.

Людвіга Мікульская

У 1829 годзе ў маёнтку Здзітава адбыўся шлюб 26-гадовай панны Людвігі Мікульскай (1803-?) і 38-гадовага ўдаўца Георгія Шэмета, падкаморыя Пружанскага павета. У пасведчанні аб шлюбе бацькамі Людвігі запісаны Андрэй Мікульскі і Маргарыта Стравінская з маёнтку Старыя Жыровічы. Сярод сведкаў на вяселлі ў дакуменце пазначаны слонімскі павятовы маршалак Войцэх Пуслоўскі.

Маці Георгія Шэмета Ганна паходзіла з роду Пуслоўскіх, і даводзілася роднай сястрой Войцэху Пуслоўскаму. У Людвігі і Георгія Шэметаў нарадзілася дачка Марыя (1833 — 1897), якая стане жонкай гродзенскага павятовага маршалка Аляксандра Мерарда Друцкага-Любецкага (1827 — 1898), бацькам якога быў таленавіты эканаміст, міністр фінансаў Каралеўства Польскага князь Францішак Ксаверы Друцкі-Любецкі (1778 — 1846).

Стэфан Мікульскі

Пасля 1812 года ўладальнікам маёнтка Старыя Жыровічы згадваецца сын Андрэя Мікульскага і Маргарыты Стравінскай Стэфан Мікульскі (1791 — 25 жніўня 1848).



*Міхал Валовіч*

У 1816 годзе заможны жыровіцкі абшарнік, былы кіраўнік дэпартамента Слонімскага гродскага суда Стэфан Мікульскі ажаніўся з Марыяй Фёлькерзамб, якая разарвала шлюб з Казімірам Валовічам. Бацька Марыі Адам Эвальд Фёлькерзамб (1734 — 1794) — дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, каштэлян віцебскі, апошні ваявода Інфлянцкі, камергер караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У сям'і Казіміра і Марыі Валовічаў было трое дзяцей — дочкі Ганна, Паўліна і 10-гадовы сын Міхаіл Валовіч — будучы рэвалюцыянер, удзельнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1830-1831 гадоў.

З малодшай дачкой Паўлінай

Марыя Фёлькерзамб пераехала жыць у маёнтак Стары Здзітаў Пружанскага павета, які належаў Стэфану Мікульскаму. Што прымусіла Марыю разарваць шлюб з КазімірамВаловічам, дакладна не вядома. Даследчык Аляксандр Талерчык у сваёй кнізе "Парэчча" выказвае меркаванне, што магчыма, Казімір Валовіч шмат часу надаваў дзяржаўным справам і яго маёнтак прыйшоў у заняпад, а *"гаспадарка памешчыка Сцяпана Мікульскага была багатая"*.

Казімір Валовіч вызначаўся адукаванасцю і часта падарожнічаў па замежных краінах. У сваім маёнтку на Слонімшчыне ён пачаў выкарыстоўваць перадавыя метады гаспадарвання, скасоўваць прыгонніцтва і адпускаць сялян на волю. Гэта палохала памешчыкаў-суседзяў, якія баяліся, што іх сяляне таксама запатрабуюць свабоды. Магчыма, што гэта і не падабалася яго жонцы баранэсе Марыі Фёлькерзамб. Да таго ж Казіміру Валовічу было 37 гадоў, а тут на гарызонце з'явіўся малады і заможны ўдавец Стэфан Мікульскі. Зразумела, што пазнаёмілася яна з ім праз свайго брата Адама Фёлькерзамба, які быў жанаты на Марыі Моль. Яна даводзілася цёткай Ганне Моль, жонцы роднага брата Стэфана Фларэнціна Мікульскага.

Для 25-гадовага Стэфана Мікульскага шлюб з баранэсай Марыяй Фёлькерзамб таксама быў другі, бо яго першая жонка Марыя Пуцята памерла, нарадзіўшы дачку Вераніку. Вераніка Мікульская нарадзілася ў сямейным маёнтку Мірацічы, які стаяў на беразе чароўнага возера Свіцязь. Вераніка Мікульская будзе выхоўвацца ў сям'і дзядулі Міхала і бабулі Юзэфы Мікульскіх у маёнтку Вязавец Слонімскага павета.

10-гадовы сын Марыі Міхал Валовіч ад шлюба з першым мужам Казімірам Валовічам застаўся жыць з бацькам. У сям'і Стэфана Мікульскага і Марыі Фёлькерзамб нарадзіўся сын Януарый. Розніца ва ўзросце паміж братамі Міхалам Валовічам і Януарыям Мікульскім складала 18 гадоў. Такой жа вялікай была розніца і ў іх характары, поглядах на жыццё і ў паводзінах.

У паўстанні 1830-1831 гадоў на Слонімшчыне Міхал Валовіч выступіў разам з бацькам за адмену прыгонніцтва, за абвяшчэнне дэмакратычнай рэспублікі, за нацыянальную самастойнасць нашага народа. Паўстанне было падаўлена. У 1833-м Міхал Валовіч вярнуўся з эміграцыі на радзіму, каб у родных месцах арганізаваць новае паўстанне, быў арыштаваны. 2 жніўня 1833 года 27-гадовага Міхала Валовіча павесілі ў Гродне. Ён увайшоў у беларускую гісторыю як герой, які прагнуў свабоды і незалежнасці свайму народу.

Януарый Мікульскі (1824 — 1889) быў зусім іншым чалавекам. Пра яго ўспаміналі, як пра вялікага аматара гульні ў карты, часта ўслужлівага, вельмі папулярнага ў кампаніі. Ён меў шмат сяброў. Родныя пераканалі Януарыя змяніць жыццё, запатрабавалі ад яго, каб ажаніўся. І вось у 1850 годзе Януарый Мікульскі стаяў ужо ля алтара з Камілай Кіневіч з заможнай сям'і, якая была адукаваная, вельмі добра выхаваная.

Пасля смерці народжанага дзіцяці Януарый адправіў маладую жонку Камілу да бацькоў і зноў кінуўся ў гульню і віно. Пасля таго, як ён моцна прайграўся ў карты і ў яго не было аніякага выйсця, альбо прадаваць маёнтак, альбо прыняць жонку з прыданым дахаты, што ён урэшце і зрабіў. У гэты момант у яго не было нічога, акрамя некалькіх соцень рублёў, чатырох коней і вернага слугі Антонія, а бацька Камілы даваў пастаянна ёй добрыя грошы. Потым Януарый Мікульскі вярнуўся да ранейшага жыцця і так працягвалася да 1857 года, калі памерла яго маці Марыя Фёлькерзамб, і ён стаў спадчынным гаспадаром у маёнтку Здзітава. Януарый кіраваў два гады ўзоравай гаспадаркай маёнтка Здзітава, значна павялічыў кошт сямейнай зямлі. Але яму хутка абрыдла сельскае спакойнае жыццё і ён прадаў маёнтак, дзе былі магілы яго бацькоў і дзе панавала гасціннасць на працягу доўгіх гадоў. Януарый Мікульскі куралесіў з вялікім капіталам паміж Гроднам і Варшавай, трацячы сямейныя грошы. Нарэшце ён купіў дом у Пінску і пераехаў туды. Мікульскі памёр у Варшаве, але перш за ўсё ён, як добры католік, прызнаў ўсе свае памылкі, папрасіў прабачэння ў жонкі Камілы і меў суцяшэнне, бо гэтая высакародная жанчына, якая кахала яго ўсё жыццё, пакінула Рым, дзе яна пастаянна жыла, і стала клапаціцца пра мужа, пакуль ён не зачыніў назаўжды свае вочы.

### Фларэнцін Мікульскі

Фларэнцін (Філарэнцій) Андрэевіч Мікульскі (1800 — 1869) нарадзіўся ў маёнтку Старыя Жыровічы ў сям'і Андрэя Мікульскага і Маргарыты Стравінскай. Адукацыю атрымаў у Віленскім універсітэце, дзе ў 1819 годзе скончыў поўны курс навук са званнем кандыдата філасофіі, служыў па выбарах ад дваранства першапачаткова за-

# З гісторыі ўладальнікаў маёнтка Старыя Жыровічы з канца XV стагоддзя да 1939 года

*Працяг, пачатак на ст. 8-9*

сядацелем гродскага суда ў Слоніме, потым павятовым суддзёй у Слонімскім павятовым судзе. Знаходзячыся на службе, атрымаў у 1829 годзе ордэн Святога Уладзіміра 4-й ступені. На працягу двух гадоў быў членам губернскага інвентарнага камітэта, пасля — членам губернскага камітэта аб паляпшэнні побыту сялян (да 1861 года), атрымаў за працу срэбны медаль. З паловы 1861-га па травень 1863 года займаў пасаду міравога пасярэдніка ў Слонімскім павеце.

Фларэнцін Мікульскі быў жанаты на Ганне Аляксандраўне фон Моль (1821 — 5 снежня 1914, Старыя Жыровічы), меў трох сыноў: Восіпа, Валенса і Аляксандра.

Нямала звестак пра Фларэнціна Мікульскага я атрымала з перапіскі з яго праўнукам, прафесарам Польскай Акадэміі навук Янам Х'юбертам Стэцкім.

Ганна нарадзілася ў сям'і графа Аляксандра фон Моля і Сафіі Дабражаньскай у маёнтку Вышкі Дынабургскага павета Віцебскай губерніі (цяпер — Латвія). З гэтага ж роду паходзіла маці Эміліі Плятэр, якую таксама звалі Ганна Моль.

Мікульскі прымаў актыўны ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху, пра што сведчыць данос ад траўня 1848 года. У яго збіраліся Валовічы, Слізні, Орды, Чачоты, Пржэцлаўскія. Фларэнцін Мікульскі трапіў пад паліцэйскі нагляд. Між іншым, яго "грахом" была нелегальная літаратура, якую атрымліваў


Ś. P.

ANNA Z Hr. MOHLÓW

MIKULSKA

opatrzona św. Sakramentami, po długich i ciężkich cierpieniach zasnęła w Panu dn. 5-go grudnia 1914 roku, w majątku Starych Żyrowicach w 93-im roku życia.

Pochowana tamże w grobie rodzinnym dnia 8-go grudnia.

O tej bolesnej stracie zawiadamiają krewnych, przyjaciół i znajomych, prosząc o modlitwę za spokój Jej duszy.

Synowie, Synowe, Wnuki i Prawnuczka.

Nabożeństwo żałobne odbędzie się w Wilnie 18.XII o 9½ w kościele Świętego Michała.

*Паведамленне ў газеце аб смерці жонкі Фларэнціна Мікульскага Ганны Моль са Старых Жыровічаў*

з-за мяжы. Верагодна, яе дасылалі эмігранты-паўстанцы стрыечныя браты Ісідар і Іосіф Мікульскія.

Фларэнцін Мікульскі ўдзельнічаў у падрыхтоўцы вызваленчага паўстання 1863-1864 гадоў (згадваецца, як "памочнік" Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі), дапамагаў паўстанцам і пасля яго пачатку. Пра гэта даведаліся рускія ўлады, Мікульскі апынуўся ў складзеным спісе паўстанцаў. Да таго ж былі дакументы, у якіх згадваліся ён і яго маёнтак.

3 ліпеня 1863 года сельскі пісар паведамляў слонімскаму начальніку аб з'яўленні паўстанцкага атрада ў вёсцы Літва. А яна ўваходзіла ў склад маёнтка Старыя Жыровіцы Фларэнціна Мікульскага.

У іншых данясеннях чытаем: *"25 красавіка 1863 г. з маёнтка Старыя Жыровічы памешчыка Фларэнціна Мікульскага адышло да інсургентаў 10 чалавек дворні"*, а *"4 траўня з двара Старыя Жыровічы памешчыка Фларыяна Мікульскага невядома куды адлучыліся 3 чалавекі, якія на мінулым тыдні паступілі на службу: кухар Сцяпан Цішко, лакей Восіп Здановіч і фурман Іван Куратнік"*. У 1864-м за ўдзел у паўстанні 18 сялян Стара-Жыровіцкай сельскай грамады выслалі з краю і накіравалі ў арыштанцкія роты.

Падчас вобыску ў красавіку 1864 года ў доме памешчыка Фларэнціна Мікульскага жан-дары забралі *"паперы і лісты напісаныя на польскай з пячаткай Мікульскага"*, карты Польшчы, *"чатыры кнігі партрэтаў фатаграфічных"*, кнігу ксяндза Ялавецкага "Пропаведзь народнага паўстання" ды іншае. 63-гадовы Фларэнцін Мікульскі быў арыштаваны і ўтрымліваўся ў Гродзенскім турэмным замку. Падчас арышту ён нікога з паўстанцаў

не выдаў, адмаўляў свой удзел у Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі і называў вядомых людзей, якія маглі б выказацца ў яго падтрымку (архімандрыт Жыровіцкага манастыра Мікалай Рэдута, гродзенскі епіскап Ігнацій, генерал Праслоў, былы вайсковы начальнік Слоніма генерал Чартоў і г. д.). Выратавалі Мікульскага ад высылкі ўплывовыя сувязі сям'і, у тым ліку і сяброўства з праваслаўным протаіерэем Плакідам (Плацыдам) Янкоўскім, які 7 гадоў навучаў яго сыноў Восіпа, Валенсія і Аляксандра. Вайсковы суд у Гродне вызваліў Фларэнціна Мікульскага ад адказнасці.

Бываў у Жыровічах і Напалеон Орда, які 8 верасня 1876 года зрабіў малюнак Жыровіцкай Яўленскай царквы. Магчыма, што яго прыезд быў таксама звязаны са шлюбам Марыі Орды з сынам Фларэнціна Валенсіем Мікульскім. Да 1931 года ў маёнтку Старыя Жыровічы жыла Марыя Орда (1853 — 29.11.1931), якая даводзілася роднай унучкай стацкаму дарадцу Пятру Апалінар'евічу Ордзе з Дзеравянчыцаў і сваячкай мастаку Напалеону Ордзе. Родная сястра Марыі Леанціна Орда выйшла замуж у Парыжы за сына Напалеона Орды Вітольда. Нашчадак роду Напалеона Орды Х'юберт Дэнармандзі даслаў мне сямейныя архіўныя дакументы і фотаздымкі. У лісце ён пісаў: *"Бабуля нам пакінула некалькі дакументаў пра нашых продкаў. У нашай сям'і ёсць лісты на французскай мове ад Марыі Орды, жонкі Валенсія Мікульскага са Старых Жыровічаў. У гэтых лістах яна піша сваёй сястры Леанціне Ордзе пра Слонім, Ракава і Дзеравянчыцы"*.

●Святлана Брайчук

*Працяг у наступным нумары*

# Альбярцінская "фабрычка" фальшывых манет




У жніўні 1934 года сланімчанка Эстэр Якімоўская нешта аплачвала на мясцовай пошце. Сярод грошай, якія яна аддала паштоваму работніку, аказалася фальшывая манета наміналам 1 злоты. Выклікалі паліцыю, якая распачала расследаванне.*

У міжваенны час фальшываманетчыкаў было нямала, у тым ліку і на Слонімшчыне.** Звычайна іх хутка выяўлялі, разблытваючы ланцужок распаўсюду грошай. На гэты раз выйсці на след удалося толькі праз некалькі тыдняў. Пад падазрэнне трапіў жыхар Альбярціна Пётр Зажэцкі (Зарэцкі?). Паліцыя правялаператрус па месцы яго жыхарства. Фальшывых манет не знайшлі, але выявілі доказы злачынства: шэсць формаў 1-злотавай манеты. Альбярцінца затрымалі. Праводзілася расследаванне, пра вынікі якога нам пакуль нічога невядома. У прэсе нелегальную майстэрню фальшываманетчыка называлі "фабрычкай" г. зн. невялікай фабрыкай.

●СЁ

**Kurjer Nowogródzki, 1934, № 244, 7 верасня.*

***Ёрш С. Пра слонімскіх фальшываманетчыкаў 1930-х гадоў // Слонімскі край, 2016, № 6. Ліпень. С. 3-4.*

# Пра перарваную традыцыю

Сёлета "СК" пісаў пра тое, што мелодыя паланэза Агінскага загучала з пажарнай вежы ў Слоніме толькі ў пачатку 1930-х гадоў, а перад ёй кароткі час выкарыстоўваўся кракаўскі хейнал.* Высвятляецца, што ўжо ў 1934 годзе традыцыя з невядомай прычыны перарывалася. У верасні таго года газета "Навагрудскі кур'ер" пісала, што *"з пэўнага часу"* слонімцы перасталі чуць з пажарнай вежы паланэз Агінскага. А сама вежа, якая раней была асветлена, патанула ў цемры. *"Чаму Слонім перарваў традыцыю?",* — пытаўся аўтар зацемкі.** Дарэчы, у ёй згадваецца, што мелодыя гучала штодня а 8-й гадзіне раніцы і а 8-й гадзіне вечара.

●СЁ

**Ёрш С. Калі ўпершыню загучаў паланэз з пажарнай вежы ў Слоніме? // Слонімскі край, 2020, № 9. Жнівень. С. 1-2.*

***Kurjer Nowogródzki, 1934, № 250, 13 верасня.*

# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)



*Працяг, пачатак у № 10(20), 2017 г., № 1(23), № 2(24), № 6(28), № 7(29), 2018 г., № 5(39), № 7(41), 2019 г., № 5(51), № 6(52), № 7(53), № 8(54), № 9(55), 2020 г.*

1934

У 1934 годзе ў Баранавіцкай групе "клясы B" Віленскай акругі выступала адна слонімская каманда — Makabi Słonim. Акрамя яе гулялі тры баранавіцкія каманды: Ognisko Baranowicze, Makabi II Baranowicze, WKS 9DAK Baranowicze. Першыя два матчы слонімцы правялі ў Баранавічах: 1 ліпеня з Ognisko, а 14-га — з Makabi II. Апошні паядынак групы Makabi Słonim правёў дома 29 ліпеня з WKS 9DAK. У выніку першае месца заняла каманда Ognisko Baranowicze, якая далей спаборнічала з віленскімі камандамі.[1]

Нам удалося знайсці вынік толькі аднаго матчу слонімцаў: Makabi прайграла ў гасцях Ognisko (KPW(Kolejowe Przysposobienie Wojskowe — чыгуначная вайсковая падрыхтоўка) Ognisko) — 0:3.[2]

Таксама ў "клясе B" існавала Навагрудская група, у якую ўваходзілі каманды з Навагрудка і Ліды.

Такім чынам, нічога не змянілася — слонімская яўрэйская каманда працягвала няўдала выступаць у афіцыйных спаборніцтвах. А больш моцныя гарадскія каманды ў іх не ўдзельнічалі. Вядома, што ў 1934-м у Віленскі акруговы футбольны саюз уваходзілі 11 клубаў: 5 — з Вільні, 3 — з Баранавічаў, па 1 — з Навагрудка, Ліды і Слоніма. Адрасам офісу Makabi Słonim пазначана вуліца Міцкевіча, 15 (цяпер — Першамайская, ніжэйшая яе частка).[3]

У Гродне футбольны сезон адкрыўся ў апошнія дні сакавіка.[4] Першыя матчы ў Слоніме, пра якія нам вядома, прайшлі ў траўні. У тым сезоне з'явіліся тры новыя каманды: "Nordja" ("Nordia", "Nordija")[5] (яўрэйская), "Jutrznia" і "Strzelec" (польскія). А вось каманда паштавікоў "Sparta" (Pocztowy kłub sportowy), відаць, знікла. Адсутнасць матэрыяльнай базы не дазваляла спартыўным клубам развівацца, а энтузіязму на даўжэйшы час не хапала. Цікава, што менавіта слонімскія паштавікі ў красавіку 1934-га аказалі дапамогу новастворанай камандзе Strzelec — ахвяравалі для футбалістаў 11 камплектаў формы.[6] Зусім верагодна, што сярод "стральцоў" маглі апынуцца і некаторыя гульцы былой Sparty.

Слонімец Барыс Данілюк у сваіх успамінах піша пра вясну 1934 года: *"У Слоніме вясною пачынаўся сезон нагачовых (футбольных) гульняў, у якіх, найчасцей, над на хутка зарганізаванымі польскімі дружынамі верх брала жыдоўская "Макабі" ці другая, таксама жыдоўская, назову якое не памятаю".*[7]

Відавочна, што другая яўрэйская каманда гэта якраз Nordja. Данілюк трапна заўважыў пра "на хутка зарганізаваныя" польскія каманды.

У першай палове траўня (а магчыма і ў канцы красавіка) Strzelec згуляў "некалькі матчаў" з камандамі Makabi і Nordja. "Навагрудскі кур'ер",

які відавочна сімпатызаваў польскай камандзе, не паведаміў іх выніпі. Адзначалася толькі, што "стральцы", мелі *"моцную тэхнічную і фізічную перавагу"*, але нейкім *"дзіўным збегам абставін"* не атрымалі перамог. На суботу, 26 траўня, быў запланаваны матч Strzelec — WKS 80pp Słonim.[8]

Гэта былі таварыскія матчы, якія аднак збіралі тысячы заўзятараў. Футбол у Слоніме любілі. На жаль, па-ранейшаму ў горадзе не было карэспандэнта, які б дасылаў у спартыўную прэсу справаздачы паядынкаў. З-за гэтага пра матчы лета 1934-га мы ведаем вельмі мала.

У першай палове чэрвеня слонімскі Makabi згуляў у Баранавічах са сваімі аднаклубнікамі. Гэта была каманда, якая гуляла ў "клясе А" Віленскай акругі. Не дзіўна, што яна нанесла гасцям разгромнае паражэнне — 9:0. Свіраньскі забіў 5 галоў, а Беларус і Рутковіч — па 2.[9] У пачатку ліпеня ў Баранавічах з мясцовым Makabi згуляла слонімская "Nordja" і прайграла з лікам 2:6. У слонімцаў галы забілі Мінц і Іруш, у гаспадароў поля — Свіраньскі — 4, Радновіч — 2.[10]

У канцы чэрвеня ці ў пачатку ліпеня армейскі клуб 80-га пяхотнага палка правёў два футбольныя матчы ў Навагрудку з мясцовымі камандамі. Спачатку быў пераможаны Makabi — 4:0, а пасля і Sokól — 5:0.[11] Магчыма, полк быў там на вайсковых манёўрах. Наўрад ці армейцы адмыслова ездзілі б на матчы ў цэнтр ваяводства.

Больш інфармацыі пра футбол у Слоніме восенню 1934-га. 8 верасня на гарадскім стадыёне гулялі Makabi і Jutrznia. Яўрэйская каманда мела вялікую перавагу над "новастворанай камандай" і выйграла з лікам 5:1. "Задавальняюча" паядынак судзіў пан Б. Шыцько.[12]

У сярэдзіне верасня Nordja прымала Ognisko kolejowe з Баранавічаў і ў прысутнасці каля 1500 заўзятараў прайграла — 2:4. Судзіў матч пан Язерскі. У справаздачы адзначалася, што Nordja не аднавілася пасля паядынку з камандай Jutrznia (яго вынік не паведамляўся) і *"спадзявалася на ўдачу"*. У гэтай зацемцы ёсць важная згадка пра тое, што Jutrznia — каманда рабочых.[13]

22 верасня Makabi і Jutrznia сустрэліся зноў. На стадыёне сабраліся каля 3000 заўзятараў! "Макабісты" зноў перамаглі, на гэты раз з лікам 6:4. Судзіў пан Шыцько. У кароткай справаздачы адзначалася пагаршэнне формы гульцоў яўрэйскай каманды, яны *"з вялікай цяжкасцю"* перамаглі саперніка.[14]

У пачатку кастрычніка ў Слоніме праводзіўся тыдзень LOPP (Liga Obrony Powietrznej i Przeciwgazowej; Таварыства супрацьпаветранай і хімічнай абароны). У яго рамках на гарадскім стадыёне прайшлі два футбольныя матчы — у панядзелак, 1-га і ў суботу, 6-га кастрычніка. У першым паядынку Strzelec прайграў WKS (нумар палка ў газетнай публікацыі не пазначаны) — 2:5 (1:1). "Стральцы" адкрылі лік у першым тайме і выйгравалі



*Футбольны мяч, 1934 год*

да 38-й хвіліны, калі армейцы забілі свой першы гол. А ў другім тайме больш сіл засталося ў футбалістаў WKS, якія ўпэўнена давялі матч да перамогі з буйным лікам.[15] У другім паядынку Strzelec гуляў з камандай Jutrznia і зноў прайграў — 1:2. Рашаючы гол быў забіты на апошняй хвіліне з пенальці, прызначанага суддзёй Мінцам (ці не гулец гэта каманды "Nordja"?). На гарадскім стадыёне прысутнічала каля 2 тысяч заўзятараў. У газетнай публікацыі адзначаўся прагрэс каманды Jutrznia: *"Пры частых трэніроўках гэтай каманды яна можа стаць на чале цывільных камандаў горада"*.[16] У папярэднім сезоне такія ж надзеі ўскладаліся на каманду Sparta.

Тыдзень LOPP скончыўся паядынкам футбольных камандаў WKS і Nordja. З-за моцнага дажджу яго адкладалі на іншы дзень. Але і тады надвор'е было "неспрыяльнае", таму заўзятараў было менш, чым звычайна — каля 1500 чалавек. WKS гуляў не ў поўную сілу, карыстаўся памылкамі саперніка. *"Nordja амбітная каманда, але гуляе дзіўна"*, — чытаем ў справаздачы. Падчас гульні значная частка футбалістаў яўрэйскай каманды магла сабрацца ў адным месцы поля, каб колькаснай перавагай абыграць саперніка і прарвацца да брамы. Але ў іншых месцах поля ўтвараліся "дзіркі", чым і карысталіся армейцы. Вынік — 3:0 на іх карысць. Судзіў гульню паручнік Гупалоўскі.[17]

24 кастрычніка ў Слоніме адбыўся футбольны матч на карысць пацярпелых ад паводкі ў Польшчы. Гулялі найлепшыя каманды горада WKS і Makabi. Армейцы выйгралі з лікам 4:0. Футбалісты яўрэйскай каманды не хацелі прызнаць "легітымным" чацвёрты гол, забіты ў іх браму, скандалілі.

# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак на ст. 12-13*



**Odpowiedzi Redakcji**

**P. W. Tyd. Białystok.** Zasadniczo nie powtarzamy wiadomości. Powinien Pan był dać obszerniej telefonem. Dopiero po świętach — list przyszedł za późno.

**Pp. D. Hils. Kołomyja i W. K. Tomaszów.** Wysyłamy. Prosimy o adresy.

**P. Feliks. Wiecz. Sarny.** Weismuller—2:08. Przez nokaut, nigdy, wogóle pięć razy.

**P. Kuna, Słonim.** Mistrzostwa Europy odbędą się dopiero po Olimpiadzie w roku 1938. Mistrzostwa Polski w kwietniu, w Łodzi. Zgłasza się każdego zawodnika z osobna. Mają prawo startować mistrzowie. Zdaniem naszem niewielkie.

**P. Ryszard Jaw. W-wa.** Zdaniem naszem Warta.

**P. Maks Kast, Słonim.** Siła jest klubem żydowskim. Zawodowcy: Wolgast, Brown Miller, Ross, Mac Larnin, Thil, Olin, Baer; Ross i Baer są żydami. Mistrzami amatorskiemi świata są mistrzowie olimpijscy z roku 1932: Enckes, Gwynne, Robledo, Stevens, Flynn, Barth, Cartens, Lowell.

**P. Andrzej Kuch. Sarny.** Już wszedł Śląsk.

**P. Słodź. Mińsk Maz.** W połowie stycznia.

**P. Kaz. Wlask. Poznań.** Na czas.

**P. A. Wilno.** Bezpośrednio po ostatnim meczu.

*Адказы на пытанні слонімцаў у варшаўскай газеце*

Пры гэтым суддзя быў “нейтральны”, яго запрасілі з Баранавічаў (рэдкі выпадак для Слоніма). “Навагрудскі кур’ер” пісаў, што слонімскія футбольныя каманды, акрамя армейцаў і “стральцоў”, недысцыплінаваныя: не слухаюцца суддзю, могуць пакінуць поле да заканчэння матчу. Найперш згадваліся Makabi і Nordja.[18] У лістападзе ў ваяводскай газеце з’явіўся крытычны артыкул пра гэтыя каманды, якія назвалі *“псеўдаспартыўнымі”*. Нібыта *“склаўся звычай правакацый”* на гарадскім стадыёне з боку футбалістаў яўрэйскіх камандаў і іх заўзятараў. Згадваўся выпадак падчас матчу WKS — Nordja. У нейкі момант адзін з футбалістаў апошняй напаў на гульца вайскоўцаў і спрабаваў яго ўтрымаць. У выніку *“правакацыя скончылася бойкай”*. Сцвярджалася, што ў шэрагу выпадкаў парадак на стадыёне наводзіла паліцыя. Газета заклікала кіраўніцтва стадыёна забараніць гульню на ім камандам, якія не ўмеюць сябе паводзіць на полі.[19]

Апошнім матчам футбольнага сезону 1934 года ў Слоніме была сустрэча камандаў WKS і Strzelec. Армейцы нанеслі сапернікам разгромнае паражэнне — 8:0. На гэты раз яны гулялі ў поўную сілу і ў іх усё атрымлівалася. За збіццём “стральцоў” назірала тысяча заўзятараў. Судзіў гэты паядынак і судзіў слаба пан Мінц.[20]

Высвятляецца, што ў 1934-м у Слоніме былі, як мінімум, два чытачы варшаўскага “Спартыўнага агляду” (“Przegląd Sportowy”). У адным з нумароў рэдакцыя адказвала на пытанні слонімцаў. Яны цікавіліся не толькі польскім, але і замежным футболам.[21]

●Сяргей Ёрш


*[1]https://pl.wikipedia.org/wiki/Okr%C4%99gowe_rozgrywki_w_pi%C5%82ce_no%C5%BCnej_woj._wile%C5%84skiego_(1934);*

*Goksiński J. Klubowa historia polskiej piłki nożnej do 1939 roku. Tom I. —Warszawa, 2013. S. 199-200, 363.*

*[2] Przegląd Sportowy, 1934, № 54, 7 ліпеня.*

*[3] Rocznik sportowy 1934. — Warszawa, 1934. C. 409.*

*[4] Kurjer Nowogródzki, 1934, № 91, 6 красавіка.*

*[5] Польскі даследчык Ян Гаксіньскі памылкова піша, што ўжо ў 1932 годзе ў Слоніме існаваў футбольны клуб Nordia: Klubowa historia polskiej piłki nożnej do 1939 roku. Tom I. S. 199.*

*[6] Kurjer Nowogródzki, 1934, № 103, 18 красавіка.*

*[7] Данілюк Б. Азіраючыся расой выетымі вачыма: Успаміны. — Мінск: Лімарыус, 2012. С. 115.*

*[8] Kurjer Nowogródzki, 1934, № 139, 25 траўня.*

*[9] Przegląd Sportowy, 1934, № 48, 16 чэрвеня.*

*[10] Przegląd Sportowy, 1934, № 54, 7 ліпеня.*

*[11] Тамсама.*

*[12] Kurjer Nowogródzki, 1934, № 249, 12 верасня.*

*[13] Kurjer Nowogródzki, 1934, № 258, 21 верасня.*

*[14] Kurjer Nowogródzki, 1934, № 265, 28 верасня.*

*[15] Kurjer Nowogródzki, 1934, № 271, 4 кастрычніка.*

*[16] Kurjer Nowogródzki, 1934, № 277, 10 кастрычніка.*

*[17] Kurjer Nowogródzki, 1934, № 277, 10 кастрычніка, № 278, 11 кастрычніка.*

*[18] Kurjer Nowogródzki, 1934, № 295, 28 кастрычніка, № 298, 31 кастрычніка.*

*[19] Kurjer Nowogródzki, 1934, № 306, 8 лістапада.*

*[20] Kurjer Nowogródzki, 1934, № 303, 5 лістапада.*

*[21] Przegląd Sportowy, 1934, № 103, 26 снежня.*

# Гальяш Леўчык перад ад’ездам у Варшаву



Гэты здымак быў зроблены ў Слоніме ў фотамайстэрні Барыса Вайнштэйна. На ім — малады слонімец Гальяш Ляўковіч. Ён асабіста напісаў дату — 5 студзеня 1904 года. Фота падпісаў свайму знаёмаму (а можа і сябру?) Пятру Левандоўскаму. І той яго захаваў. Некалькі гадоў таму здымак прадавалі на адным з інтэрнэт-аукцыёнаў.

Гальяш Ляўковіч быў яшчэ на пачатку свайго шляху. Поўны энергіі і планаў. У 1904-м ён атрымае прафесію чарцёжніка і паедзе са свайго роднага горада ў Варшаву, уладкуецца там на працу ў будаўнічы аддзел магістрата, наладзіць сувязі з мясцовымі беларусамі. Неўзабаве з’явіцца Гальяш Леўчык, беларускі паэт-нашанівец, які пакіне свой адметны след у нашай літаратуры.

Але тады, у 1904-м, Ляўковіч яшчэ быў у Слоніме сярод сваякоў, сяброў і шматлікіх знаёмых. Магчыма, у яго нараджаліся першыя вершы. Ён здзяйсняў першыя краязнаўчыя вандроўкі.

●Сяргей Ёрш

# Гальяш Ляўковіч і Клаўдзія Хруцкая на сходзе ў Слоніме ў 1934 годзе

13 красавіка 1934 года ў Слоніме адбыўся сход мясцовых сябраў польскай арганізацыі “Легіён маладых”. Гэта была маладзёжная арганізацыя пілсудчыкаў (прыхільнікаў Язэпа Пілсудскага), якая стваралася пры навучальных установах. Былі ў ёй не толькі палякі, але і беларусы. Таму не дзіўна, што на сход былі запрошаны *“прадстаўнікі беларускай літаратуры з панам Э*[льяшом] *Ляўковічам на чале”.* І літаратараў, і прысутных прадстаўнікоў мясцовай грамадскасці “Легіён маладых” запрасіў да супрацоўніцтва.

На жаль, невядома, ці выступаў перад моладзю Гальяш Ляўковіч. А ён мог паспрабаваць дагрукацца да сэрцаў “легіянераў”, прапагандуючы беларушчыну, чытаючы беларускія вершы ці спяваючы народныя песні.

Даклад “Нарыс беларускай літаратуры” прачытала мастачка і настаўніца беларускай мовы Клаўдзія Хруцкая. Тэкст быў аб’ёмны і грунтоўны. А пасля Хруцкая адказвала на пытанні наконт беларускай літаратуры, яе перспектываў.

Зусім магчыма, што на згаданым сходзе быў беларускі паэт Сяргей Новік, які жыў у Слоніме і ў 1934-м працаваў інструктарам LOPP (Таварыства супрацьпаветранай і хімічнай абароны).

●Сяргей Ёрш

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Настольны тэніс у Слоніме, 1934 год



Настольны тэніс у Слоніме быў папулярны сярод моладзі ў міжваенны час. У прэсе нярэдка можна сустрэць згадкі пра паядынкі па "пінг-понгу", якія праводзіліся ў горадзе. Для гульні быў патрэбны стол, падзелены сеткай, ракеткі і мячык. Колькі было такіх пляцовак у нашым горадзе, невядома. Нядаўна пашчасціла знайсці фота, на якім можна пабачыць паядынак па настольным тэнісе ў офісе слонімскага аддзела "саюзу стральцоў". Яго апублікаваў часопіс "Strzelec" у 1934 годзе. Пры аддзеле існавала секцыя пінг-понгу. У адным з матчаў "Strzelec" перамог яўрэйскую каманду "Nordja".* Гэта быў рэванш за ранейшае паражэнне.**

Настольны тэніс быў асабліва папулярны ў зімовыя месяцы, калі летнія віды спорту ставілі на паўзу.

●СЁ

**Strzelec, 1934, № 6, 11 лютага. С. 23.*

***Strzelec, 1934, № 3, 21 студзеня. С. 23.*

СЛОНІМЦЫ Ў СВЕЦЕ

# Ванда Награбецка

Ванда Награбецка (дзявочае прозвішча — Дукальска) нарадзілася ў Слоніме ў 1924 годзе. Пражыла яна ў нашым горадзе нядоўга — бацькі пераехалі на Віленшчыну. Напярэдадні Другой сусветнай вайны вучылася ў віленскай музычнай кансерваторыі імя М. Карловіча. Падчас нямецкай акупацыі была ў польскім падполлі ў Вільні, удзельнічала ў антынямецкім паўстанні лета 1944-га. У тым жа годзе выехала ў Польшчу. У Любліне сланімчанка вучылася ў вышэйшай школе жывапісу, пасля працягвала мастацкую адукацыю ў Торуні і Варшаве. Ванда Награбецка стала мастаком, мела і групавыя, і індывідуальныя выставы. Адначасова захаплялася паэзіяй. Яна пачала пісаць вершы яшчэ ў Вільні, калі была школьніцай. Пры жыцці выдала кнігу "Wniknięcie" ("Пранікненне").

Мастачка і паэтка памерла 28 верасня 1992 года ў Варшаве. Праз тры гады ў польскай сталіцы выйшаў пасмяротны зборнік яе вершаў "Czai się w nas ziemia" (Z palety snu i jawy; "Зямля хаваецца ў нас" ("З палітры сну і няспання").

●Генадзь Гурскі



Усе нумары краязнаўчага месячніка "Слонімскі край", якія выйшлі на працягу 2016-2020 гадоў, можна знайсці на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі "Камунікат": http://kamunikat.org/slonimski_kraj

З АРХІВАЎ

# Аляксееўская плошча на Замосці ў Слоніме

У 1913 годзе ў Расійскай імперыі святкавалі 300-годдзе дома Раманавых. З гэтай нагоды прайшла хваля перайменаванняў вуліц, плошчаў і нават населеных пунктаў. Закранула яна і Слонім. У зборах Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіву ў Санкт-Пецярбургу захоўваецца справа "Канцылярыя імператрыцы Аляксандры Фёдараўны. Аб найменні ў гарадах Гродзенскай губерні" (ф. 525, воп. 2, спр. 237). У ёй сабраныя дакументы ад 29 ліпеня да 7 жніўня 1913-га. У даступным нам іх апісанні чытаем: *"...3)* [у] *Слоніме — плошчы на Замосці — Аляксееўскай, у гонар спадчынніка-цэсарэвіча; перайменаванні Парадной вуліцы — у Мікалаеўскую; Іерусалімскай вуліцы — у Раманаўскую".*



Як бачым, плошча перад касцёлам св. Андрэя не мела на той час назвы. Раней мы меркавалі, што ў часы расійскай царскай улады яна была безыменнай.[2] Высвятляецца, што напярэдадні Першай сусветнай вайны назва ўсё ж з'явілася. Але яна відавочна не паспела прыжыцца, а пасля ва ўмовах некалькіх зменаў уладаў увогуле знікла. Пры польскіх уладах плошчу называлі і "пляцам пры касцёле парафіяльным (ці пры вуліцы Касцельнай)", і "пляцам Касцельным" (пакуль невядома, ці гэта была афіцыйная назва), а ў канцы 1933 года з'явілася плошча Льва Сапегі. У савецкія часы яна стала плошчай Максіма Горкага, у 1990-я ў часы незалежнай Беларусі — зноў плошчай Сапегі.[3]

Пра перайменаванне Іерусалімскай вуліцы ў Раманаўскую (цяпер — Пушкіна) было вядома і раней. А вось згадкі пра перайменаванне Парадной вуліцы (цяпер — Першамайская, яе ніжняя частка) ў Мікалаеўскую сустракаць не даводзілася. Гэтыя назвы таксама з'явіліся ненадоўга.

●Сяргей Ёрш

*[1] РДГА, ф. 525, воп. 2, спр. 237; https://rgia.su/object/6820871*

*[2] Ёрш С. Плошча Сапегі ў Слоніме // Слонімскі край, 2017, № 3(13). Сакавік. С. 3.*

*[3] Тамсама.*



УСПАМІНЫ

# На ўздыме

*1912-1919 гады ў Слонімскім раёне Заходняй Беларусі*

*Працяг, пачатак у №9-10, 2020 г.*

У горадзе ўсё працоўнае насельніцтва зараз-жа было прыцягнута да працы ў рабочых батальёнах, дзе за бясцэнак, за марку-паўтары ў дзень працавалі з золку да вечара. Частку моладзі, пераважна рабочай, пагналі ў Германію і трымалі там у лагерах, як і ваеннапалонных. Частку гарадскога бяднейшага насельніцтва ў ліку каля 5100 сем'яў у адзін дзень, даўшы ім тэрмін для збораў толькі 24 гадзіны, высялілі ў далёкія запусцелыя вёскі, дзе захаваліся некранутыя агнём паасобныя жыллёвыя пабудовы. І на працягу трох год (асабліва ў апошнія два гады) маса народу, за выключэннем гандляроў і спекулянтаў, адарваная ад нармальнага вытворчага жыцця, пухла ад голаду, смяротнасць дзяцей асабліва павысілася і галодны тыфус, выгнаны немцамі ў пачатку свайго прабывання, зноў пачаў касіць направа і налева.

У такой абстаноўцы разрозненасці, убоства і голаду любы рэвалюцыйны рух у першыя часы амаль зусім заглох. Толькі ў канцы 1916 года па ініцыятыве групы рабочых і служачых, якія належалі да розных партыйных арганізацый і якія працавалі тады народнымі міліцыянерамі пры гарадскім самакіраванні і рамонтнымі рабочымі на чыгунцы, зноў ажывіліся старыя падпольныя сходы. На першым сходзе асноўным стала пытанне адносна барацьбы з мясцовым самакіраваннем, у склад якога ўваходзілі прадстаўнікі гарадской буржуазіі і два прадстаўнікі яўрэйскіх дробнабуржуазных арганізацый. Самакіраванне цалкам знаходзілася пад кантролем нямецкіх уладаў, бясспрэчна выконвала ўсе загады нямецкай камендатуры, дамагалася толькі розных прывілеяў для буржуазных пластоў насельніцтва ў сэнсе развіцця гандлю, адкрыцця паасобных прадпрыемстваў і г. д. Самакіраванне гэтае было створана да моманту адыходу царскіх войск, за два тыдні да прыходу немцаў. Пры ім жа



*Слонімскія яўрэі-рэвалюцыянеры*



*Слонімскае самакіраванне часоў нямецкай акупацыі*

тады на дабраахвотных асновах стварылася народная міліцыя для аховы горада ад рабункаў і пажараў, у склад якой увайшла значная частка рабочых. За год працы самакіраванне ўзняло супраць сябе амаль усё працоўнае насельніцтва і, улічваючы ўсё гэта, было вырашана распачаць мабілізацыю людзей шляхам кампрамітуючых выступленняў супраць гарадскога самакіравання. На тым жа сходзе было абгаворана пытанне аб правядзенні агітацыйнай працы сярод нямецкіх салдат.

Лютаўская рэвалюцыя і ўтварэнне ў Расіі Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў унесла яшчэ большае ажыўленне ў пачатую працу. Але адначасна ажывілі сваю дзейнасць старыя дробнабуржуазныя арганізацыі Бунд, Паалей-Цыён і іншыя, і адразу вызначыліся дзве асноўныя плыні. Адна лічыла, што пазбаўленне ад жахаў вайны, і ў тым ліку ад нямецкай акупацыі, павінна прыйсці шляхам пераможнага наступлення "рэвалюцыйнай" рускай арміі (гэта армія Часовага ўраду і Керанскага) супраць нямецкай арміі, што змусіць апошнюю на заключэнне дэмакратычнага міру без анэксій і кантрыбуцый. Да гэтага ў асноўным зводзіўся пункт гледжання ўсіх арганізацый меншавіцкага кірунку. Другая плынь, так званая левая група, якая складалася з двух-трох таварышаў, якія лічылі сябе бальшавікамі, з паасобных максімалістаў, левых бундаўцаў і групы беспартыйных рабочых, абараняла пазіцыю няўхільнасці другой рэвалюцыі ў Расіі, калі ва ўлады сапраўды стануць Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў, якія даб'юцца безадкладнага сканчэння імперыялістычнай вайны. Адсюль задача вядзення агітацыі сярод нямецкіх салдат за хутчэйшую перамогу рэвалюцыі



*Удзельнікі народнай міліцыі ў Слоніме*

ў Германіі і падрыхтоўку рабочых і сялян акупаваных краін да аднаўлення савецкай улады ў сваіх раёнах. Вось з гэтай групы таварышаў за некалькі месяцаў склалася першая падпольная бальшавіцкая арганізацыя ў раёне.

## Кастрычніцкая рэвалюцыя ў Расіі і першы падпольны з'езд Саветаў

Кастрычніцкая рэвалюцыя ў Расіі выклікала хвалю ўздыму ў значных груп рабочых, хоць бундаўскія і іншыя кіраўнікі дробнабуржуазных арганізацый адразу разгарнулі ўсе свае сілы, каб пашырэннем усялякіх чутак, ілжой і брудам ачарніць правадыроў Кастрычніцкага перавароту і рассеяць тыя радасныя надзеі, якія былі звязаны з гэтай вялікай перамогай. Карыстаючыся ўздымам настрою людзей, левая група безадкладна прыступіла ад працы. Найперш узнікла пытанне аб закупцы зброі з мэтай стварэння баявога ўзброенага атраду. Грошы на гэтую справу даставаліся з вялікай цяжкасцю, даводзілася ў першыя часы пазычаць пад гарантыю таго ці іншага аўтарытэтнага таварыша, з абяцаннем у бліжэйшым часе вярнуць. У мэтах захавання паўнейшай канспірацыі ў гэтай небяспечнай справе, каб не праваліцца і не страціць тыя паасобныя вінтоўкі, браўнінгі і набоі, якія праз знаёмых і блізкіх да нас нямецкіх салдат здабываліся з вялікай цяжкасцю, аўтар гэтага артыкулу быў упаўнаважаны толькі адзін атрымаць зброю ад таварышаў, якія закуплялі яе, і падбіраць месцы схованак, пра якія ніводзін з членаў групы не павінен быў ведаць. У першыя месяцы гэтая праца прасоўвалася надзвычай павольна. Так, да восені 1918 года было набыта не больш дзясятка вінтовак і некалькі браўнінгаў. Пачынаючы з лістапада месяца, калі рэвалюцыйныя падзеі ў Германіі пачалі нарастаць з незвычайнай хуткасцю, гэтая праца таксама пачала прасоўвацца значна шпарчэй.

У дні Брэсцкіх перамоваў галоўным чынам па ініцыятыве левай групы стаў рыхтавацца першы адкрыты масавы рабочы вечар, які адбыўся 22(9) студзеня 1918 года ў дзень расстрэлу піцерскіх рабочых.* Фактычна гэта было першае адкрытае святкаванне рабочымі горада Кастрычніцкага перавароту ў Расіі.

●Якуб Куніца

Працяг у наступным нумары

**Гаворка пра ўгодкі так званай "Крывавай нядзелі" ў 1905-м, калі ў Пецярбургу расстралялі шэсце рабочых, якія неслі цару калектыўную петыцыю.*




# Капліца св. Даманіка

Капліца св. Даманіка на скрыжаванні вуліц Пушкіна і Міцкевіча ў Слоніме, помнік архітэктуры сярэдзіны XVIII стагоддзя, патрабуе ўвагі, піша "Слонімскі веснік". У прыватнасці, патрэбная рэстаўрацыя падмурку, у якім заўважныя расколіны. Мясцовыя жыхары кажуць, што капліцу даўно не бялілі.

Каталікі ўжо думаюць над рамонтам капліцы і гаварылі пра гэта з прадстаўнікамі райвыканкама, адзначае выданне.



ХРОНІКА

# Жыровіцкія юбілеі і кіраўнік БПЦ





7 кастрычніка ў Жыровічах адзначылі юбілейныя даты — 550-годдзе з'яўлення Жыровіцкай іконы Божай Маці і 500-годдзе заснавання манастыра. У траўні 2020-га распаўсюд каранавіруснай бяды не дазволіў гэта зрабіць так, як планавалася. Больш маштабныя святкаванні адклалі на восень.

У Жыровічы прыехаў новы кіраўнік Беларускай Праваслаўнай Царквы мітрапаліт Веніямін. Ён асвяціў і помнік Серафіму Жыровіцкаму, і памятны камень, усталяваны на месцы, дзе ўзвядуць новую званіцу, і званы.

"Слонімскі край" — краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар Сяргей Ёрш

Наш адрас: slonimskikraj@gmail.com